№ 9-10 [24-25] Верасень-Кастрычнік 1949 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ВЕДАЙ, ВЕРАЙ, НАДЗЕЯЙ І ЛЮБОЎЮ ДА ЛЕПШАЕ БУДУЧЫНІ.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE». Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 40 фр.

Адрэс рэдакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 350 фр.

# Непераможнае аружжа



Пасьля таго, як выбухлі ў Японіі першыя атамныя бомбы, увесь сьвет глядзеў на Амэрыку, як на абсалютна непераможную к р а і н у. Тымбольш у гэтым былі пераканаmake самыя амэрыканскія міліянэры і міліярдэры. Ім магла ўсьміхацца думка: нарэшце зможам спакойна ўжываць жыцьця. Дзяржаўныя мужы вялікіх валадарстваў, здавалася, так-жа былі асьлеплены гэтай упэўненасьцю; іхныя вушы ставаліся нячулымі на голас мучаных і гнобленых у іншых краінах, — што ім было праймацца доляю няшчасных бежанцаў; яшчэ і так зрабілі ім вялікую ласку, што далі лягэры — маглі і гэтага не зрабіць. Адкрытыя лісты сіламоц рэпатрыяваных не маглі пабачыць шырокага сьвету, каб не каламуціць «супакою».

Але вось, як гром, раскацілася па сьвеце вестка, што «непераможнае» і жахлівае аружжа — атамная бомба ўжо ёсьць і ў іншых краінах. Адразу трэснула, як мыльная бурбалька вымроеная бясьпека тых, якія шкадавалі сілаў заглянуць за зялезную заслону, схаваўшыся бясьпечна за атамную бомбу. Цяпер зноў супраць сьляпое сілы стала такая-ж самая заядлая, сьляпая, бяздушная сіла. Зьнік, як туман, вымроены супакой — вайна нэрваў набліжаецца да свае жахлівае разьвязкі. І вось з усіх бакоў ад пару гадоў падымаюцца галасы: ратуйма супакой! Мітынгі, зьезды, прамовы, плякаты, а за імі прэса і радыё гальмакуюць на усе лады і галасы што трэба ратаваць супакой, але спытайма: дзе ёсьць сёньня той супакой, які можна і трэба ратаваць? Ці ён ёсьць там, дзе сёньня дзьвесьце мільёнаў людзей з закныпляванымі вуснамі цягнуць ярмо нячуванае ў сьвеце эксплюатацыі? Ці ёсьць супакой там, дзе дваццаць мільёнаў людзей замкнёныя ў прымусовыя лягэры працы? Ці ёсьць супакой і мір там, дзе лютуе штодня і штоночы мільённая армія тырана? А з другога боку, ці ёсьць супакой там, дзе бяскарна багаты можа зьдзекавацца над бяднейшым і слабейшым? Ці ёсьць супакой і мір

там, дзе над пісанымі законамі валадарыць няпінае права кулака?

Кожны на свой лад разумее мір і супакой. І найбольш крычаць аб супакою тыя, якія самі ніколі ня маюць супакою, аддаўшыся ў палон сваім нізкім і дзікім гонам, і іншым супакою не даюць. Іхным жаданьнем ёсьць зруйнаваць усё; з старое эўрапэйскае культуры зрабіць магільнік. «Мы стары сьвет разбурым аж да асноваў...» пяюць яны ў захапленьні. Гэта быў-бы сапраўды незакаламучаны супакой і мір; Ідэальны супакой, які пануе на магільніку. Фабрыкі дваццатага веку вырабляюць аграмадную масу розных матэрыялаў і прыладаў, якія могуць асягнуць той магільны супакой: гарматы, танкі, бамбавозы, газы, атамныя бомбы, бактэрыялягічныя бомбы і інш. Усё гэта можа ня толькі гарады, але цэлыя краіны ператварыць у магільнікі.

Магчыма, што ў гэтым і ёсьць трагэдыя нашага веку і трагэдыя людзтва, што дзяржаўныя мужы, а за імі шырокія масы грамадзянства часта забываюцца аб найаснаўнейшай прўдзе, што **мір і супакой можна і трэба будаваць,** таму руйнацкімі прыладамі яго асягнуць нельга; гэткімі прыладамі яго можна толькі зьнішчыць. Зьнішчальнаю зброяю ворага можна пабіць, можна абясьсіліць і згнобіць, але ён заўсёды астаецца ворагам і таму руйнацкая перамога ня ёсьць поўнаю перамогаю. Пабіты вораг у глыбіні сэрца хавае тымбольшае жаданьне помсты, чым больш боль прычынены яму зьнішчальнаю зброяю. Пры першай нагодзе ён гэтае жаданьне пастараецца ажыцьцявіць. Гэтым і тлумачыцца той інстынктыўны недавер, а нават страх у пераможцаў адносна да пераможаных.

З гэтага аднак ня вынікае, што на сьвеце мір і супакой немагчымы. Падчас нараджаньня Хрыста ангелы абвясьцілі сьвету, што Хрыстос прыносіць на зямлю мір людзям добрае волі. Таму і трэба шукаць міру і супакою на шляху паказаным Хрыстом. З агульнае гісторыі і гісторыі Царквы ведама, што падчас вайны імпэратара Канстантына з Максэнціям у 312 г. зьявіўся Канстантыну на небе знак Хрыста з заклікам «Гэтым пераможаш!». Канстантын выкарыстаў гэтае аб'яўленьне на свой лад; ён загадаў пазначыць усе ваенныя сьцягі тым знакам і кінуўся ў бой супраць Максэнція. Варожае войска было разьбіта на голаву і сам Максэнцій загінуў. Ад таго часу крыж Хрыста выйшаў з падзямельляў і катакомбаў ды закрасаваўся свабодна над сьвятынямі. Але на вялікае няшчасьце для людзтва, нават тыя, якія станавіліся пад сьцягам значаным Крыжам не задумоўваліся над тым, якое значэньне мае для іх Крыж; адны прымалі Яго, як нейкі магічны знак, з якім лягчэй магчыма руйнаваць, а іншыя, як аздобу, як цацку. Тады, калі ў сапраўднасьці Крыж, як прылада сьмерці Хрыста для адкупленьня людзкога роду ёсьць **сымбалем бязьмежнае ахвярнае любові.** У гэтым значэньні Крыж ёсьць сапраўды непераможным аружжам. Калі Крыжам толькі упрыгожваюць ваенныя сьцягі, калі ім значаць зброю — невялікая з гэтага пацеха, але калі Крыж значаць сэрца чалавека, калі Ён пабуджае да бязьмежнае ахвярнае любові супраць усіх людзей, Калі Ён пабуджае да бязьмежнае дабрадзейнасьці — тады Крыж стае непераможным аружжам. Ніякая сіла ня зможа перамагчы людзкога сэрца, над якім валадарыць Крыж. Калісьці дзікія зьвяры разрывалі хрысьціян на рымскіх арэнах, разьлівалі іхнюю кроў, але кожная кропля тэй крыві з хрысьціянскага сэрца і да сёньняшняга дня не перастала быць крыніцай натхненьня да гэройскіх учынкаў для тысячаў новых вызнаўцаў. Сотнямі палілі жыўцом хрысьціянскіх мучанікаў, але яны, як жывыя палымнеючыя сьветачы асьвятлялі шлях да Хрыста нязьлічаным грамадам новых вызнаўцаў. І ўканцы бязьмежная ахвярная любоў перамагла непераможна рымскае стальное аружжа — Крыж затрыумфаваў.

Сёньня гісторыя паўтараецца. Таму, што сучасныя падзеі бліжэй адносяцца да нас, як мінулыя, дык можна сьмела сказаць, што сучасныя падзеі шмат грязьнейшыя для нас. Сёньня стаяць супраць сябе ня толькі дзьве магутныя імпэрыі, але так-жа дзьве ідэалёгіі. Калі-б уважаць, што гэтымі двумя ідэалёгіямі ёсьць камунізм і капіталізм, дык хрысьціянам ня было-б асаблівае прычыны сьпяшацца на гэты фронт, бо абедзьве яны чужыя хрысьціянству. Але сёньня ёсьць яшчэ іншы фронт, шмат важнейшы за папярэдні; гэта фронт матэрыялізму і хрысьціянства. Аб тым, якая зацятая барацьба адбываецца на гэтым фронце сьведчыць факт, што на абшары апанаваным камунізмам некаторыя хрысьціянскія ўстановы апанаваны знутра бязбожніцкімі матэрыялістычнымі сіламі і ўцягнены да барацьбы супраць Хрыстовае Царквы, асабліва супраць Апостальскага Пасаду.

Напружаньне расьце з дня на дзень. Фронт камунізму-капіталізму падмацоўваецца штодня новымі самалётамі, танкамі, атамнымі бомбамі — аднак канцовы вынік магчымага канфлікту для абодвых супраціўнікаў можа быць вельмі неспадзеваны, таму так доўга цягнецца падрыхтоўчая вайна нэрваў.

На фронце матэрыялізм-хрысьціянства вельмі няроўныя сілы ( няроўныя і ў простым і пераносным значэньні гэтага слова). Супраць гарматаў, самалётаў, бомбаў, турмаў, канцлягэраў і адымаючых сьведамасьць прэпаратаў **актэдрона** Хрыстовая Царква мае толькі **адзінае аружжа —**

Крыж. Хрыстовая Царква існуе на сьвеце не на тое, каб зьнішчаць людзей, але на тое каб іх спасаць. Хрысьціянскае аружжа — Крыж ня зьнішчае ворага, але ператварае яго ў прыяцеля ў гэтым і ёсьць непераможная сіла Крыжа. Людзі — ранейшыя ворагі Крыжа — пацягненыя прыкладам бязьмежнае любові і ахвярнасьці хрысьціян, самі йдуць пад сьцяг Крыжа. Ніхто з вернікаў ня можа стаяць з боку ў сучасным змаганьні за Хрыстову Царкву. Нашым абавязкам ёсьць усюды станавіцца ў абароне Царквы. Не патрэбна далёка шукаць гэтага фронту, ён каля кожнага з нас і ў сэрцы кожнага з нас. Мы на кожным кроку становімся перад гэтым фронтам. Пры гэтым аднак мы павінны ведаць сваё аружжа — Крыж і карыстацца ім. На Крыжы Хрыстос адкупіў сьвет — даў прыклад бязьмежнае любові; з Крыжам апосталы здабывалі сьвет, — Бог паказаў, як Ён дапамагае простым і ахвярным сэрцам; з Крыжам сьвятыя прасьвяцілі сьвет — далі прыклад, што кожны з нас можа йсьці іхным шляхам; з Крыжам сучасныя вернікі ўпэўнена йдуць да перамогі над цёмнымі сіламі.

**а. К. - Рог.**

# ІНТУІЦЫЯ

Інтуіцыя гэта лацінскае слова, якое служыць для азначэньня яснага, простага і беспасрэднага пазнаньня праўды бяз удзелу разумаваньня і даказваньня. Гэта значыць, што інтуіцыйнае пазнаньне падобна да нейкага адчуваньня. Прадметам інтуіцыйнага пазнаньня можа быць так надпрыроднае, разумовае паняцьце, як і матэрыяльная рэч. У залежнасьці ад гэтага вучоныя разрозьніваюць некалькі родаў інтуіцыі, але ў гэтым кароткім артыкуле нас ня так будуць цікавіць меркаваньні філязофаў аб інтыуцыі, як яе значэньне ў штодзенным жыцьці.

З інтуіцыяў мы маем дачыненьні амаль штодзенна, але таму што гэтае зьявішча найчасьцей не падлягае досьледам, на яго да нядаўна ў некаторых навуковых кругох не хацелі зьвяртаць увагі.

Ня ўсе людзі і не заўсёды ў аднолькавай ступені маюць інтуіцыю. Зьвіхнутыя і выкаленыя немаральным жыцьцём людзі часта заглушваюць інтуіцыйныя пачуцьці, іншыя ў залежнасьці ад узгадаваньня і ад моды на інтуіцыю стараюцца не зьвяртаць увагі, маюць яе за нішто — іншыя наадварот перацэньваюць яе асабліва ў рэлігійных справах, таму Царква ўжо няраз была змушаная забіраць голас у гэтай справе і асуджаць памылковыя пагляды тых, якія прыпісвалі інтуіцыі адзіную магчымасьць пазнаваньня Бога.

Не падлягае аднак ніякаму асуджаньню — наадварот годная падзіву ёсьць інтуіцыя паэтаў, мастакоў, дзяцей у пазнаваньні сьвету, матак у адносінах да дзяцей і асабліва годная ўвагі інтуіцыя народных масаў.

Таму аднак, што ў народных масах побач інтуіцыі, карысных звычаяў і практыкаў ёсьць нямала бескарысных, а часам нават і шкодных забабонаў, дык была зьявілася мода, асабліва ў кругох поўінтэлігэнцыі высьмейваць усё, што ня годзіцца з іхнымі паняцьпямі. У выніку гэткага меркаваньня інтуіцыя часта расцэньвалася нароўні з забабонамі.

Наколькі гэты пагляд быў памылковы, хай паслужаць некаторыя прыклады. Шматлікія народныя практыкі, падыктаваныя інтуіцыяю, якія доўгі час уважаліся забабонамі, сучасная навука прымае, як найбольш мэтазгодныя і карысныя, падаючы іх да шырокага ведама, як найнавейшыя навуковыя дасягненьні і адкрыцьці.

Сучаснае садаводзтва ўважае, што адным з лепшых спосабаў для вынішчэньня шкоднікаў ёсьць абвязваньне ўвосень садовых дрэваў саламянымі перавясламі, каб гэтым даць магчымасьць пахавацца туды шкоднікам для зімоўкі, а на прадвесьні гэтыя перавяслы папаліць. — А ў народнай практыцы адвякоў гэта выглядала так: на Шчодры Вечар абвязвалі садавіну аўсянымі перавясламі, «каб дрэвы сільна радзілі». Вясною перавяслы зьнішчаліся.

Народная прымета кажа, што калі пачарнее нацельны сярэбраны крыжык ці ланцужок, дык гэта варожыць няшчасьце. У гэтым выпадку практыка і назіраньне больш чым інтуіцыя прычынілася для пазнаньня гэтае прыметы, аднак супрацоўніцтва інтуіцыі мусіла таксама быць. Сучасная мэдыцына гэтую прымету ўважае за непамыльны знак, што няшчасьце ўжо ў арганізьме ёсьць, бо серабро чарнее ад розных серкавых газаў, што выдзяляюцца праз скуру падчас ненармальнага разлажэньня жывога бялка, калі пачынаюцца некаторыя хвароблівыя працэсы.

Сучасная аграномія ўважае неабходным падчас сеяньня лубіну на навіне пасеяць адначасна крыху ральлі з тае нівы, дзе раней рос лубін, бо неабходнаю ўмоваю для добрага ўраджаю лубіну зьяўляюцца маленькія жывучкі-бактэрыі, якія жывуць у карэньнях лубіну і награмаджваюць там азот. Звычайна на навіне гэтых жывучак амаль не спатыкаецца, таму трэба імі поле быццм заражаць. — Старыя гаспадары, якія нічога ня ведаюць аб бактэрыях, добра ведаюць, што сеючы лубін на навіне трэба «украсьці» трохі ральлі з нівы, дзе рос калісь лубін і пасеяць разам з лубінам.

У сучаснай жывёлагадоўлі з навуковаю пэў-

насьцю сьцьверджана, што прысутнасьць чужых людзей у хляве нэрвуе кароў, у выніку, чаго яны даюць менш малака, таму найменш гадзіну перад даеньнем ня раіцца ўпускаць ў хлеў нікога пастароньняга. — Чым-жа розьніцца гэта, ад так высьмейванага калісьці перакананьня вясковых кабетаў ,што каровам можа шкодзіць «ліхое вока»?

Асаблiва народная мэдыцына дае сучасным мэдыкам багаты матэрыял для студыяў і для разважаньняў.

Ужо ад даўна мэдыцына прызнала цалюшчую вартасьць практыкі народнае мэдыцыны прыкладаньня гузоў і вывіхаў намочанаю глінаю, але адносна нядаўна выяўлена, што цалюшчае дзеяньне гэткага прыкладаньня заўдзячваецца алюмінію, галоўнаму складоваму элемэнту гліны.

Калі ў часе першае сусьветнае вайны нястала заморскіх лекаў для гамаваньня крывацечаў, дык лекары і аптэкары зьвярнуліся да народных лекарскіх зёлкаў і там бяз ніякіх цяжкасьцяў «знайшлі» водны перац, якім бабулькі ўжо доўгія вякі гамавалі крывацечы, і гэтая расьлінка, якая на Беларусі сустракаецца даволі часта, выратавала жыцьцё не адной сотні людзкіх існаваньняў.

Часам з спачуваньнем, а найчасьцей з абураньнем, глядзелі лекары на раны сваіх вясковых пацыентаў калі ў гэтах ранах часам знайходзілі цьвілы хлеб, але вось ад некалькі гадоў усякую гнойную хваробу і гнойную рану толькі і лечаць выцягам з хлебнае цьвілі, ахрышчанае лацінскім назовам пэніцыліна.

Ня будзем тут успамінаць аб прадчуваньні народам масавых няшчасьцяў,войнаў і пад., бо яны падчас масавага пашырэньня прыкрашваюцца ў фантастычныя формы і да таго гэтымі справамі з навуковага гледзішча пачалі займацца даволі нядаўна, але вынікі гэтых досьледаў могуць быць вельмі неспадзяванымі. Да чаго лекарскія мэтады варажбітоў і шаптуноў былі шарлатанскія, аднак сучасная мэдыцына ўвяла гіпнозу для лячэньня некаторых хваробаў запазычыўшы яе як раз ад шаптуноў.

Падобных прыкладаў можна падаць шмат больш, але для закранёнае справы выстарчае і гэтых.

Калі-б цяпер спытаць: якім чынам перад навуковымі досьледамі неасьвечаныя людзі даведаліся, што ў даных выпадках трэба рабіць так, а ня інакш? Дык адказаў можам пачуць некалькі, але адзіным сапраўды годным прыняцьця ёсьць той, які кажа, што настаўнікам людзей ў гэткіх выпадках побач назіраньня і дасьведчаньня была і ёсьць інтуіцыя. Адгэтуль ясна, як неразумна рабілі тыя, якія пераступіўшы парог якоесь школы, і часта яе не закончыўшы, пачыналі звысака і з пагардаю глядзець на «цемру» народных гушчаў. І таму, што істотнаю азнакаю народных гушчаў ёсьць рэлігійнасьць, дык яе так-жа прабавалі ўважаць за выяў цемры.

Аднак дзе як дзе, а ў рэлігійнасьці народная маса мае найбольш здаровую інтуіцыю. Вялікі лік найбольшых гэніяў навукі, якія былі глыбока рэлігійнымі зьяўляецца найлепшым доказам праўдзівасьці гэтага цьверджаньня. З багаслоўскага гледзішча нельга пахваліць рэлігійнасьці апёртае выключна на інтуіцыі; хоць самыя масы вернікаў у бальшыні выпадкаў задавальняюцца інтуіцыйным пазнаньнем Бога, але падчас наступу бязбожных сілаў, падчас выпрабаваньня веры, не заўсёды могуць належна бараніць сваю рэлігійнасьць, бо адзінаю іхняю абаронаю астаецца пасыўнасьць. Аднак сам факт, што гэтая рэлігійнасьць масаў ёсьць паўсюдная і паўсёдная, пацьверджаны рэлігійнасьцю вялікіх вучоных, сьведчыць, што ў гэтым выпадку інтуіцыя ёсьць непамыльная.

Часам у некаторых асяродзьдзях можна пачуць думку, што рэлігія гэта больш справа жанчын і дзяцей. Ці больш? Хіба што не, бо яна аднолькава важная для ўсіх. Але што жанчыны і дзеці маюць больш чулую інтуіцыю агулам, а тым самым і ў адносінах да надпрыродных зьявішчаў дык гэта бяз сумніву так. Дзеці непамыльна адрозьніваюць таго, хто да іх адносіцца прыхільна ад таго, хто да іх настроены няпрыхільна, хоцьбы гэтую няпрыхільнасьць ён стараўся няма ведама, як замаскоўваць усьмешкамі і ласкамі. З гэткім самым непамыльным пачуцьцём дзеці складаюць рукі ў шчырай малітве да Бозі Якога так мала ведаюць, але да Якога імкнуцца ўсім сваім сэрцам, як да Істоты, Якая іх найбольш любіць.

Інтуіцыя ёсьць адною з таёмных сілаў людзкога духа, аб якой яшчэ навука сказала вельмі мала. Тым ня менш гэтая сіла зьяўляецца паважным дзейнікам у людзкім жыцьці так у адносінах да дачасных справаў як і да надпрыродных.

**П. Знаменскі.**

# Недацэньваная сіла

**(Зацемкі аб малітве).**

Наша пакаленьне перажывае час ,калі мабілізуюцца ўсе будуючыя сілы, каб супрацьставіць іх разбураючым сілам, якія вядуць пляна-вы, узмоцнены наступ на эўрапэйскую культуру. У такім палажэньні было-б карыгодным не зьвярнуць увагі на адну з найбольш будуючых і ўзмацняючых духовых сілаў — сілу малітвы. Тымчасам у радох беларускае эміграцыі, часам

шмат горш, як у іншых народаў, гэтая сіла вельмі недацэньваецца. Лёгка можна знайсьці далёкую апраўдваючую прычыну такога стану рэчаў у рэлігійнай палітыцы акупуючых Беларусь суседзяў, аднак з гэткае «знахадкі» невялікая для нас пацеха. Самога факту яна не зьмяняе. Лепш усьведаміць сабе тую аграмадную сілу, якую дае людзям малітва і пастарацца выкарыстаць яе для нашага асабістага і агульнанацыянальнага дабра.

Для яснасьці самае справы варта прыпомніць, што малітваю называем ня толькі паўтарэньне нейкае прыпісанае формулы, але ў больш уласьцівым і сьціслым значэньні малітваю ёсьць зварот людзкога духа да Бога з намерам просьбы, або падзякі, або ўслаўленьня Яго.

Так, як усемагутны і ўсюдыпрысутны ёсьць Бог, так моцнай і ўсюдыпатрэбнай ёсьць малітва. Няма даслоўна ніводнае дзялянкі людзкога жыцьця, дзе-б не праяўлялася магутнае дзеяньне малітвы.

Як духовая сіла, малітва найвыразьней праяўляецца там, дзе сіла духа ёсьць найбольш дзейнаю. Сьв. Жанна д-Арк (1412-1431) з малітваю на вуснах вяла войска ад перамогі да перамогі — яе кволыя дзявочыя сілы гартаваліся ў шчырай малітве.

Галоўнакамандуючы ўсіх аліянцкіх збройных сілаў першае сусьветнае вайны маршал Фош (1851-1929) так-жа ў малітве чэрпаў сілы да перамогі згодна з сваім клічам: «Сіла, якое не ажыўляе дух, ёсьць марнаю сілаю». Аднак слабадухі няраз насьміхаліся з пабожнасьці маршала. У гэткіх выпадках маршал умеў адважна абараняць сваю чэсьць і годнасьць малітвы. Калі аднойчы Фош прысутнічаў на ўрачыстым банкеце, перад тым, як садзіцца за стол, ён згодна з сваім звычаем пабожна перахрысьціўся. З гэтага рэлігійнага знаку некаторыя пачалі насьміхацца. Тады маршал выняў два набітыя рэвальвэры, палажыў іх спакойна на стале каля свае талеркі; так каб усе іх маглі бачыць, і потым спакойна адвярнуўшыся ў бок тых, што сьмяяліся, старанна паволі перахрысьціўся другі раз — гэтым разам ужо ніўкога ня было ахвоты сьмяяцца.

Агульна ведамая была пабожнасьць другога выдатнага маршала першае сусьветнае вайны Ліотэй (1854-1934), — ён і сам шчыра маліўся і іншых заахвочваў да малітвы, і ў баёх заўсёды перамагаў.

Пабожным быў так-жа і нямецкі маршал Паўло Гіндэнбург (1847-1935); ён задоўга перад канцом вайны пісаў: «На фронце чуем, калі бацькаўшчына менш моліцца». Прадчуваньні збыліся.

Падобных прыкладаў можна назьбіраць нязьлічаную колькасьць.

Падчас хваробы, калі найбольш праяўляецца людзкая слабасьць, тады-ж найлепш выяўляецца сіла малітвы. Аздараўляючае дзеяньне малітвы зьвяртала на сябе ўвагу ад найдаўнейшых часоў. Сучасная мэдыцына стаіць перад фактам прызнаньня лячобнае дзейнасьці малітвы. Каб далёка ня шукаць доказаў на гэта, можна спаслацца на нядаўна выданую кніжачку др. А. Каррэля — «Малітва». Усе цудоўныя аздараўленьні, якія цяпер сьцьвярджаюцца з усёю мэдыцынскаю і навуковаю дакладнасьцю ,дзеюцца пад ціхі шопат малітвы. Паводля шматгадовага дасьведчаньня Бюра Мэдычных Сьцьверджаньняў у Люрдзе малітва за іншых яшчэ больш дзейная, чым малітва за самога сябе. Таму былі выпадкі ў Люрдзе, што цудоўна аздараўляліся нават бязбожнікі, калі за іх маліўся нехта іншы. Гэтую праўду народ даўно выказаў у прыказцы: «Мацярына малітва і з дна мора дастае».

У галіне навукі малітва так-жа мела і мае аграмадны ўплыў. Найбольшыя гэніі навукі, такое меркі, як Ньютон, Кэплер, Пастэр, Марконі і сотні іншых былі глыбока рэлігійнымі людзьмі і ўмелі шчыра маліцца. Іс. Ньютона (1643-1727) няраз падглядалі, як ён крыжам ляжаў перад аўтаром. Выдатны фізык Максвэль Джэмс (1837-1879) сам укладаў цудоўныя малітвы, з якімі часта зьвяртаўся да Бога. Марконі (1874-1938) кожны свой новы вынахад перш чым аддаваць у фабрыку, нёс Сьвяцейшаму Айцу ў Ватыкан, каб атрымаць багаславенства. Няма патрэбы паўтараць агульнаведамага факту, якое вялікае значэньне мела малітва ў жыцьці гэніяльных фізыялёгаў Л. Пастэра і І. П. Паўлова. Малітва дае супакой душы і тым самым навуковую працу робіць больш плоднаю.

Ад вякоў ведамае значэньне малітвы ў працы чалавека. «Працуй і маліся!», зьяўлялася клічам працоўных і сёньня яшчэ выпісана на шматлікіх сьцягох прафэсыйных арганізацыяў. Адзін стары рыбак гэты кліч прадставіў вельмі вобразна. Ён у сваім чаўне на адным вясьле напісаў «Праца», а на другім «Малітва». Аднойчы якісьці малады чалавек, пераязджаў у гэтым чаўне раку і з насьмешкаю казаў рыбаку: «Дзядзька, які вы адсталы, хто працуе, той не патрабуе маліцца». Нічога ня кажучы на гэтую заўвагу, рыбак выпусьціў вясло з напісам «Малітва» і пачаў вяслваць толькі адным вяслом з напісам «Праца». Човен пачаў круціцца на мейсцы. Тады малады чалавек заўважыў зноў, што каб плысьці ўпярод, неабходна веславаць двумя вяслам. Стары рыбак зноў узяў вясло з напісам «Малітва» і хутка прыстаў з чаўном да берагу. І рыбак і спадарожнік маўчалі, бо паясьненьне было непатрэбнае.

Коратка кажучы, няма ніводнае дзялянкі людзкога жыцьця, дзе-б малітва ня мела дабрадзейнага ўплыву нават калі-б глядзець на гэты ўплыў

з гледзішча толькі прыроднага. А духовага і надпрыроднага жыцьця агулам нельга ўявіць без малітвы. Да вялікай праведнасьці і сьвятасьці людзі даходзілі і даходзяць толькі з шчыраю малітваю ў сэрцы і на вуснах.

Пасьля вышэйсказанага можна сабе лёгка ўявіць, як чалавек шмат траціць, калі перастае маліцца. Ды ня толькі траціць — без малітвы наступае адміраньне пачуцьця сьвятасьці і зьнячуленьне сэнсу маральнасьці, а гэтае ў сваю чаргу вядзе чалавека да духовае сьлепаты. Калі людзі дваццатага веку ёсьць сьведкамі бурэньня і руйнаваньня інтэлектуальнае і матэрыяльнае культуры ,дык прычына гэтага зьявішча знайходзіцца ў тым, што людзі дваццатага веку масава перасталі маліцца. — Да гэткага выснаўку даходзяць некаторыя дасьледнікі духовага жыцьця сучаснае Эўропы. Усе доказы прамаўляюць за тым, што гэты выснавак праўдзівы.

Калі сучаснае палажэньне Эўропы называюць цяжкім, дык палажэньне нашае бацькаўшчыны трэба было-б назваць трагічным. У шмат каго з беларускіх эмігрантаў ападаюць рукі, іншых апаноўвае безнадзейнасьць, бачучы нашу слабасьць у параўнаньні да варожых сілаў і цяжкасьці палажэньня. Чым прычыніцца да перамогі над сучаснай бядою? Што можам рабіць? Можам і мусім рабіць прынамсі тое, што магчыма. Векавы досьлед адназгодна сьведчыць, што няма такога цяжкога палажэньня, у якім-бы малітва ня была памоцнаю.

Аднойчы на экзаміне ў вайсковай школе камэндант пытае маладога афіцэра: «Падчас ваеннае апэрацыі вы з сваім адзьдзелам трапалі ў такое палажэньне: Перад вамі наступаючы мацнейшы за вас вораг, з бакоў вы сьціснуты пераважаючымі варожымі сіламі, адступленьне назад адрэзана. Што вы зробіце ў такім выпадку?» Вочы ўсіх экзамінатараў зьвярнуліся на маладога афіцэра. Той хвіліну падумаў, устаў і моцным голасам сказаў: «Камэндант, я тады дам загад: Малемся!».

Адказ быў неспадзяваны. Экзамінатары пераглянуліся, а камэндант адабраючы стукаў па плячы маладога афіцэра і гаварыў: «Будзьце заўсёды такім, як сёньня».

Маліцца можа даслоўна кожны і кожная з нас. Калі гэтая малітва будзе шчырая, дык хутка прыйдзе час і магчымасьць да іншых учынкаў, ад якіх залежыць наша лепшая будучыня і будучыня ўсяго народу.

**а. Леў.**

# Культ сьв. Еўфрасіні

### ПРЫЗНАНЬНЕ СЬВЯТАСЬЦІ.

Жыцьцё і дзейнасьць першае ігуменьні манастыра сьв. Спаса ў Полацку Еўфрасіні-Прадславы, для усіх, хто толькі яе ведаў, было на толькі цнатлівым, чыстым і богабаязным, што адразу пасьля яе сьмерці ўсе палачане прызналі яе сьвятою і пачалі сьвяткаваць ейную памяць 23 травеня.

Кананізацыя сьвятых ува ўсёй Усходняй Царкве, а тым самым і ў нас да XIV веку, ня мела тых фармальнасьцяў, якімі яна азначаецца цяпер; гэтая справа належала да мяйсцовага япіскапа і праводзілася вельмі проста. Лепш кажучы, гэта было прызнаньне агульнае думкі сьвятароў і вернікаў, калі яны пачыналі нейкага ўважаць за сьвятога, паколькі гэта гадзілася з духам Царквы.

Адносна Еўфрасіні дык думка аб яе сьвятасьці была ўсюды адназгодная, як гэта выразна відаць з жыцьцяпісу, дзе даслоўна кажацца, што палачане даведаўшыся аб яе сьмерці «многа плакавшэ, воспрыяша совершаці памяць ея». Ад тады дзень яе памяці 23-га травеня стаецца днём радасьці. Ужо першы жыцьцяпісец складае на чэсьць сьв. Еўфрасіні цудоўны гымн, якім канчае свой жыцьцяпіс:

«Якою моваю, браты, годзіцца нам пахваліць сьветазарную памяць прэпадобнае нявесты Хрыста — Еўфрасіні?! Яна-ж была памоцніца пакрыўджаным, сумуючым — пацеха, нагім — адзявальніца, хворым — адведвальніца; проста кажучы, усім усё была. Сэрца-ж сваё Еўфрасіня паіла боскаю мудрасьцю. Еўфрасіня кветка, што ня вяне з райскага саду; Еўфрасіня небаўзьлётны арол, які пралятаў ад захаду да ўсходу, як сонечны прамень, які прасьвяціў усю Полацкую зямлю. Дык хай, браты, хваліцца Солунь Дзімітрам, Вышэгарод — мучанікамі Барысам і Глебам, а я-ж хвалю: шчасьлівы ты, Полацкі горад, узрасьціўшы такую расьціну, прэпадобную Еўфрасіню; шчасьлівыя і людзі, якія жывуць у тым горадзе; шчасьлівыя бацькі твае; шчасьлівае лона, з якога выйшла прэпадобная спажа Еўфрасіня; шчасьлівае народжаньне і шчасьлівы узрост твой і подзьвіг твой; шчасьлівыя і манастыры твае: шчасьлівыя людзі, якія жывуць у манастырох Усеміласьцівага Спаса і Прачыстае Багародзіцы; шчасьлівыя людзі, якія паслужылі прэпадобнай нявесьце Хрыста Бога нашага. Маліся, прэпадобная, аб грамадзе сваёй да Бога, бо Яму належыцца ўсякая слава, чэсьць і паклон...».

У гэтай пахвале аўтар жыцьцяпісу, відаць сам палачанін, адлюстроўвае ясна агульную думку сваіх суродзічаў, якія цешыліся, што нарэшце іхныя рэлігійна-нацыянальныя імкненьні Бог дазволіў праявіць у сьветлай постаці сьв. Еўфрасіні.

Магчыма, што прызнаньне сьвятасьці адбылося яшчэ за жыцьця яп. Дзіанісія (1167-1182), думку тэту можа пацьвердзіць той факт, што ў гэтым часе быў напісаны першы жыцьцяпіс сьвятое і хутка быў пашыраны ня толькі па ўсёй Беларусі, але шырока па-за межамі. Да нашых часоў і дайшлі якраз розныя небеларускія пераробкі першапачатнага жыцьцяпісу.

У Ерузаліме, дзе памерла сьв. Еўфрасіня, такжа яе зразу пасьля сьмерці ўважалі сьвятою. Калі адзінаццаць гадоў пасьля яе сьмерці ў 1178 г. манахі з Тэадозіяваға манастыра, пры набліжэньні туркаў, уцякалі з Ерузаліму, дык як адзін з вялікіх скарбаў забралі з сабою мошчы сьв. Еўфрасіні і перавезьлі іх у Кіяў. У Расейскай Праваслаўнай Царкве сьвятасьць Еўфрасіні афіцыяльна была прызнаная толькі ў 1547 г. на Маскоўскім саборы.



Абраз сьв. Еўфрасіні--Прадславы Полацкае, адзін з найбольш распаўсюджаных у Полаччыне.

## Культ сьв. Еўфрасіні ў праваслаўнай Царкве.

Доўгі час. сьв. Еўфрасіня лічылася мяйсцовай полацкай сьвятою. Але гэтым самым, што Полацк у XII веку быў культурным цэнтрам усяе Беларусі, дык і культ сьв. Еўфрасіні з найдаўнейшых часоў быў пашыраны па ўсёй Беларусі, як патронкі краю.

Відаць, што гэтая нацыяналізацыя сьвятое Еўфрасіні прычынілася да таго, што доўгі час яе культ нават у блізкіх суседніх народаў быў амаль няведамы.

На Украіне, не зважаючы на тое, што мошчы сьв. Еўфрасіні знайходзіліся ў Кіяве аж да 1911 г., яе культ быў пашыраны вельмі мала. Яна успамі-налася толькі ў агульным багаслужэньні 28-га жніўня і на другой нядзелі вялікага посту разам з сьвятымі, якіх мошчы знайходзіліся у Дальняй Тэадозіявай Пяшчэры. У восьмай песьні канона на чэсьць гэтых пячэрскіх угоднікаў, які ўлажыў Мялецій Сірыга, у трэцім трапары кажацца: «Еўфрасінію, радованіе Полацкае і дзевам сіяніе, Хрысьце мой, Табе прывожу малітвеньніцу, яежэ радзі спасі мя». У дзень 23-га травеня бальшыня літургічных кнігаў выданых у Кіяве найчасьцей не ўспамінае сьв. Еўфрасіні. У XIX в. русыфікацыя Праваслаўнае Царквы на Украіне, падобна як і на Беларусі, была значна ўзмоцненая, а гэытм самым і культ сьвятых, вось-жа і культ сьв. Еўфрасіні быў уняты ў рамкі расейскае імпэрыялістычнае палітыкі.

У Расеі да XVI в. ня было зусім ніякага культу сьв. Еўфрасіні. Выдатны расейскі царкоўны гісторык Галубінскій найвыразьней аб гэтым кажа, што «для Маскоўскае Русі Еўфрасіня была так-бы сказаць чужая». Толькі калі маскоўскія цары распачалі захопніцкія войны з Вялікім Беларускім (Літоўскім) княствам, тады на Маскоўскім саборы у 1547 г. жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні быў упісаны у Четьі-Мінеі на дзень 23-га травеня. Дзіўна аднак, што ў «Сьцепеннай Кнізе» дата сьмерці сьвятое, а тым самым і дата яе памяці, азначалася на 24-га травеня ,а ў зборніку Троіцкае Лаўры — на 25-га травеня. Гэта можа сьведчыць толькі аб тым, што ў Расеі сьв. Еўфрасіня была ўпісана ў літургічныя кнігі больш дзеля прапаганды, чым для культу. І сапраўды ў сьвятцах дваццаці служэбнікаў маскоўскага выданьня з XVII в. сьв. Еўфрасіня не спатыкаецца. Толькі ад XVIII в. у некаторых большых служэбніках маскоўскага выданьня пачынаюць друкаваць дня 23-га травеня пасьля прэп. Міхаіла Сінадскага і знайдзеньня мошчаў Леонція Растоўскага, такжа «Прэп. Еўфарсіню».

Асобная служба на чэсьць сьв. Еўфрасіні расейскага ўкладу была зацьверджана толькі ў 1893 г.; акафіст толькі ў 1900 г. напісаны ерамонахам Нікадымам. Такое позьняе пашырэньне культу сьв. Еўфрасіні ў Расейскай Прав. Царкве тлумачыцца тым, што сьвятая была ў вялікай пашане ў Беларускай Уніяцкай Царкве, таму нават пасьля скасаваньня Уніі ,пакуль яшчэ ў народзе былі жывыя уніяцкія традыцыі, расейскія ўлады былі асьцярожныя з культам сьв. Еўфрасіні.

Варты ўвагі такі дробны факт, што абраз сьв. Еўфрасіні намаляваны ў 1839 г. беларускім мастаком Токаравым, родам з Бешанковіч, дзесьці так «загінуў», што і сьледу па ім знайсьці нельга. Абраз прэдстаўляў сьвятую ўва ўвесь рост. У левай руцэ яна трымала крыж, а правай, паказвала на азнакі княжай улады: карону і мантыю. Абраз быў прызначаны для Полацкай Сафіі.

## Культ сьв. Еўфрасіні ў каталіцкай Царкве.

Магчыма, што ў некаторых праваслаўных вырыне пытаньне: Якім чынам сьв. Еўфрасіня магла трапіць у лік каталіцкіх сьвятых? Зусім проста. Паводля аднагоднага сьведчаньня ўсіх каталіцкіх гісторыкаў Беларусь да XIII в. была ў лучнасьці з Рымам, таму ня толькі сьв. Еўфрасіня, але ўсе нашы сьвятыя з XII в. і пачатку XIII в., якія ўважаліся крыху большымі за мяйсцовых сьвятых, прызнаны так-жа каталіцкімі сьвятымі. У Рымскім Мартыралёгіёне іхных імёнаў не ўспамінаецца, падобна як не ўспамінаецца шматлікіх усходніх сьвятых нават з першых вякоў, бо даўней так на Захадзе, як і на Усходзе сьвятцы запаўняліся перадусім сваімі сьвятымі, а з суседніх Царкоў упісваліся толькі больш ведамыя сьвятыя. Толькі калі кананізацыю сьвятых пачалі праводзіць паводля спэцыяльных прыпісаў, ад тады ўсіх кананізаваных сьвятых пачалі ўпісваць у Рымскі Мартыралёгіён.

Калісь у часопісе «Крывічанін» Нр. 1 з 1918 г. была надрукавана дробная зацемка, што быццам сьв. Еўфрасіня мела быць урачыста кананізаваная папаю Рыгорам X на другім Ліёнскім Саборы ў 1274 г. Цяжка сказаць, адкуль аўтар гэнае зацемкі ўзяў гэты факт, бо вестак з другога Ліёнскага Сабору захавалася вельмі мала. На гэтым Саборы быў якісьці «япіскап з Русі» Пятро, але з якое епархіі, вучоныя гісторыкі да сёньняшняга дня ня могуць канчаткова усталіць. На Саборы быў кананізаваны архіяп. Эдмунд Контуарыйскі; аб Еўфрасіні не ўспамінаецца ні слова. Магчыма, што аўтар зацемкі проста пераблытаў сьв. Еўфрасіню Полацкую з яе пазьнейшаю наступніцаю ў манастыры сьв. Спаса сьв. Параскеваю Полацкаю, якую праўдападобна меў кананізаваць папа Рыгор X у 1273 г. Канчаткова гэтую справу можна было-б выясьніць у Ватыканскіх архівах. Спробы ў гэтым кірунку рабіліся ,але да ніякіх пажаданых вынікаў не давялі, бо ватыканскія архівы з XIII веку некаплетныя.

Аднак факт астаецца фактам, што сьв. Еўфрасіня паводля векавое традыціі прызнаная сьвятою ў Каталіцкай Церкве і ў сучасных літургічных рымскіх выданьнях для Усходняе Кат. Царква яна ўпісана на сваім мейсцы.

Варта аднак зацеміць, што украінскія грэка-каталіцкія літургічныя кнігі не ўспамінаюць сьв. Еўфрасіні падобна, як і іншых беларускіх. сьвятых з XII веку, бо яны для Украіны рахаваліся чужымі. Толькі апошнімі гадамі ў некаторых папулярных выданьнях жыцьцяў сьвятых, напр., «Садочек українских святих» знайходзіцца жыцьце сьв. Еўфрасіні, аднак таму, што гэтая папулярызацыя ня годзіцца ані з літургічнымі кнігамі іхняга выданьня, ані з іхнымі гістарычнымі традыцыямі, дык такія спробы расцэньваюцца толькі, як «жаданьне ўваскрасіць замёршую памяць», бо самае прызнаньне сьвятасьці Еўфрасіні было ў гр.-кат. Царкве з найдаўнейшых часоў.

Агулам ува ўсёй Каталіцкай Царкве, што да сьвятасьці Еўфрасіні Полацкае ніхто не падымае ніякіх засьцярогаў.

**а. Л. Гарошка.**

# ТЫ І ЯНА

**(Працяг 7-ы).**

Праявы, каторыя выклікаюць разбуджаныя гоны ёсьць розныя, згодна з тэй роляй, якую адна і другая плоць граюць у акце злучэньня. У юнака ўзрух плоцьнага гону спрычыняе фізычнае напружаньне і высілак, каб задаволіць сэксуальны інстынкт. Затое ў дзяўчаці «раскаханасьць» выклікае такі стан умысловага раздражэньня, каторае як паралюш забівае ўсякае супраціўленьне і волю. Квола тады туліцца яна, плача ў абыймах мужчыны, паддаецца яму бяз супраціву і гатовая споўніць ўсякага роду самадур. Гэтак крочыць у далейшым натуральнае разьвіцьцё плоцьнага гону. Затрымаць яго тады, або пагасіць рэдка каму ўдаецца. З напорам і з бязьлітаснай канешнасьцю імкнецца гэты найсільнейшы і найбольш падступны з гонаў да мэты свайго прызначэньня і ня дасьць чалавеку супакою, пакуль гэтага прызначэньня не асягне.

Пагаджаемся з тым, што шматлікія, каторыя распачынаюць нясьпелае каханьне, ня думаюць сягаць да крайнасьці. Нават з абурэньнем адкінулі-б яны падобны закід, бо ім нават праз галаву ня прыйшло штосьці падобнае. Ня хочам сумнявацца ў чэснасьці іхных цьверджаньняў. Можа здарыцца, што неадзін ня пойдзе аж так далёка, бо ў час заўважыць разрываючыя яго буры і неспакой, ды перарве знаёмства ў адпаведны час. Праўда гэткі разрыў трэба будзе доўга адхварэць. Дазволілі на ўзгадаваньне ў сабе нахілаў, каторыя запоўнілі ім усю душу, а цяпер не стае належнага заканчэньня гэтых нахілаў ,якім ёсьць сужэнства.

Можа здарыцца, што пройдзе шмат часу, пакуль дойдзе да тае крайнасьці. У гэтым аднак месьціцца ўвесь трагізм нясьпелага каханьня, падтрымованага толькі дзеля яго смаку, **што імена нястача сапраўднае мэты адбірае яму тую маральную павагу, каторая адзіная можа ўтрымаць яго ў межах належнае прызваітасьці.** Калі хто ня мае сілы аперціся гонам, каторыя набліжаюцца

да яго слабенькімі звычайнымі нападамі, дык якжа зможа аперціся тады, калі гэтыя гоны будуць прыманьваць яго найвышэйшай роскашшу, якую толькі даць могуць? Калі ня будзе мець моцы адрачыся ад дробнае прыемнасьці, дык не зрачэцца і тае крайне-апошняе.

Вельмі сумнае дасьведчаньне вучыць, што гэткі ёсьць нямінучы канец таго працэсу. Штохвіліны пачынаць яго, а пасьля ў палавіне перарываць — гэта палюдзку немагчыма.

Ці-ж наагул магчымая праўдзівая прыязьнь паміж асобамі рознае плоці? Каб адказаць на гэтае пытаньне, перадусім трэба сьціслa азначыць паняцьце, якое хаваецца пад словам «прыязьнь». Бяз сумніву, што прыяцельскае сужыцьцё, якое паўстае звычайна паміж знаёмымі сем'ямі, павінна абымаць так-жа і маладое пакаленьне ў гэтых сем'ях. Кепска сьведчыла-б аб тым маладым чалавеку, каторы ў падобных абставінах ня ўмеўбы захавацца ў адносінах да маладое дзяўчыны з прыемнай і свабоднай ветлівасьцю, не парушаючы пры гэтым усюды вымаганай прызваітасьці.

Але такая доўгая сардэчная прыязьнь, што спатыкаецца паміж хлапцамі ці юнакамі, ня дасца ўтрымаць у тых самых межах між дзяцюком дзяўчынай. Нават пры сьпелых, зусім выробленых характарах было-б гэта магчыма толькі ў вельмі вынятковых абставінах, «калі, — як кажа ведамы пісьменьнік і мараліст Альбін Штольц, — душа ўзьнялася вышэй прызямельля», а плоцьныя гоны або знаходзяць у чым іншым належнае задаваленьне, або яны акялзаныя цуглямі цноты, здабытай у доўгатрывалым змаганьні з сабою няраз ужо выпрабаванай. Аднак акурат неадна скандальная гісторыя сваім карэньнем сягае да таго самаабману, што быццам іх двое злучыла толькі шчырае сяброўства, а фактычна йшлі сьледам за нахілам сэрцаў, каторы зьяўляецца духовай часткай плоцьнага гону і каторы, бяз сумніву, папіхаў іх у сваім кірунку.

Моладзь бяз жыцьцёвага дасьведчаньня, а затым ня маючая змогі ацаніць таго ўсяго важнага, што ў яе прабуджаецца, будучы ў гадох, калі наймагутнейшы з гонаў разнаякімі спосабамі шукае сабе дарогі да завалоданьня сэрцам, яна ня зможа ўтрымаць такога сяброўства, што апіраецца толькі на ўзаемнай пашане і пэўным лёгкім узаемным нахіле аднаго да другога. Тут неабходна дойдзе змысловае каханьне, якое накіне на іх свае кандалы. Асаблiва для дзяўчаці трудна адрозьніць сяброўства ад мілоснага нахілу, бо ў яе звычайна змысловы гон дрэмле, тады калі ў юнака сваечасова будзіцца адчуваньне, якое яго перасьцерагае, што тое, што ім пачынае авалодваць, ня ёсьць нявіннае.

Вышэй сказаныя заўвагі пацьвярджаюцца прызнаньнямі маладых людзей, каторыя жадалі аставацца для сябе толькі сябрамі, але ўканцы павінны былі сказаць, што тое, што іх вяжа, ужо ня ёсьць толькі сяброўствам.

Юнак канчаючы гімназію, даўно ўжо лятуцеў уступіць у духоўную сэмінарыю. Ад некаторага часу ён сябраваў з дзяўчынаю, каторая яму падабалася. Яна ведала аб будучым намеры хлапца. Сяброўства іх мела быць чыстым, ідэальным. Яны ўхіляліся ад усякага збліжэньня, ніколі не пазвалялі на пацалункі. Калі юнак атрымаў матуру, на некалькі месяцаў яны разлучыліся, а калі ён вярнуўся, дык заявіў дзяўчыне, што канчаткова наважыў уступіць у сэмінарыю. На гэта пачуў словы: «Па-праўдзе гэта павінна-б мяне цешыць, але зразумееш хіба, што гэта мне ня прыходзіць так лёгка»... І прызнаўся пасьля той клерык-сэмінарыст перад сябрам, што завязваючы сяброўства зрабіў памылку, бо хто ведае, ці тая дзяўчына калі небудзь зможа пакахаць гэтак шчыра іншага, як яго.

Іншы малады чалавек знайшоўся ў падобным палажэньні. Абое адчулі небясьпеку новага пачуцьця, але абое зрабілі пастанову, даць яму станоўкі адпор, каб астацца для сябе толькі сябрамі. Калі запыталі пазьней таго маладога чалавека, як ён сабе ўяўляе сваю будучыню, адказаў: «Думаю, што на гэтую ахвяру ў мяне хопіць сілаў, ці яна гэта зможа — ня ведаю». — «А што зробіш, калі табе заявіць, што ў яе ня хопіць на гэта сілы? Што без цябе жыць ня зможа? Што ўсяго гэтага не перанясе?»

Гэтыя і ім падобныя прыклады паказваюць, што ў падобных выпадках, збліжэньне маладога хлапца да дзяўчыны ня ёсьць сяброўствам, але праявам плоцьнага гону.

Дасьведчаньне не пярэчыць магчымасьці, што адзінкам абдараваным нязвычайна моцнай воляй удаецца дайсьці да пэўнае ступені, ідучы за пачуцьцёвымі гонамі, і пасьля сіламоц зьвязаць гэты гон і не дапусьціць да далейшага натуральнага разьвіцьця; лёгка аднак зразумець, што падобны гвалт пачуцьцяў ня можа стацца бяз шкоды для духовага разьвою.

Лепш бяз ніякае небясьпекі адрачыся здаваленьня плоцьнага гону, і ўсе ягоныя пабуджэньні тушыць бяз літасьці напачатку.

Магчыма так-жа, як мы ўспаміналі вышэй, што ў вынятковых абставінах у людзей сапраўды дасьпелых, займаючых становішчы, якое запаўняе зусім іхныя духовыя лятуценьні, можа заіснаваць чыстае сяброўства. Але маладыя нявыробленыя людзі, якія знаходзяць задаваленьне ў даверлівых блізкіх адносінах з асобаю іншае плоці, хаця-б і жадалі глядзець на сябе, як брат і сястра, ідуць заўсёды ў кірунку, у якім папіхае чуцьцёвы гон.

Сілаю права натуры імкнецца гэтае сябро-

ства, набіраючае сілы праз сулучнасьць, да далейшага уласьцівага яму разьвіцьця. Не дапусьціць да гэтага раптоўна, раўназначна з гвалчаньнем натуры, што пасьля ўсёроўна адпомсьціцца якім небудзь спосабам. І гэтая помства заўсёды дасягала тых, што жадалі ўтрымліваць брацкія адносіны сяброўства. Гаворачы аб гвалтоўным тушэньні плоцьнага гону, трэба зацеміць, што шкоднасьць такіх адносінаў пакідае глыбейшы сьлед у дзяўчыны, бо ў яе гэты гон праяўляецца мацней.

Трэба так-жа заўважыць датычна сяброўства паміж хлапцом і дзяўчынай, што калі яно і было-б магчымым, дык толькі ў сьпелым веку, а не ў гадох разьвіцьця. Аднак наступствам такога сяброўства ёсьць тое, што дзяўчатам адпадае ахвота ісьці замуж. Па некалькі гадох ахвота вяртаецца і адзываецца з вялікай сілай, але тады ўсьведамляюць сабе, што сваімі-ж паводзінамі загарадзілі сабе дарогу да мацярынскае годнасьці, чаго цяпер усёй душой жадалі-б. Значыць самі стапталі сваё магчымае шчасьце. Не адна дзяўчына была для маладога чалавека, паводля ўласнага яго асьведчаньня, анёлам стоо̆ражам, але,... коштам уласнае лепшае будучыні. Усё пазьнейшае яе жыцьцё сталася зьвіхненым.

Бывае і так, што доўгае нясьпелае сяброўства між маладымі людзьмі спрычыняе потым нядобрыя сужэнскія адносіны, калі прыяцелі сэрца стануцца мужам і жонкай, але з іншымі асобамі. Жыцьцё ў сужэнстве гэтых людзей ніколі ня бывае шчасьлівым.

**Трэба сьцьвердзіць, што адзінай згоднай з правамі натуры бліжэйшай сувязьзю паміж асобамі рознае плоці (памінуўшы адносіны між бацькамі і дзяцьмі) ёсьць сувязь паміж мужчынай і жанчынай у сужэнстве.** Унікліва выказвае гэтую думку Колёма ў повесьці «Бой»: «У жыцьці мужчыны толькі дзьве жанчыны маюць права адыгрываць ролю: родная матка і матка ягоных дзяцей. Усё, што з тэтай чыстай і сьвятой любоўю не пакрываецца, тое ёсьць або грэшным праступкам, або небясьпечнай памылкай». Гэтага Богам устаноўленага парадку нельга легкаважыць, каб ня трапіць у небясьпеку вельмі сур'ёзных наступстваў.

Паводля кніжкі Шільгэна «Du und Sie»

апрацаваў **Васіль Друя**.

(Далей будзе).

# На адзіноце ў горах

Васеньняя ноч — мокрая кастрычніцкая цемра... Праз даліны і пракаты Тырольскіх гораў то валакліся, то працікаліся шызрыя, маркотныя імглы; змоклым сьлізкім вэлюмам завісалі яны паміж гораў над пусткамі палёў і сенажацяў, парэзаных шумлівымі ручаямі; то зноў апускаліся ўніз і, здавалася, хацелі закрыць сваім грабовым пакрывалам лугі, агалелыя дрэвы і паадзінокія пасёлкі.

Раптам зароў віхар, прытоены недзе дачасу ў горных далінах, і цяжкім краплістым дажджом і у нязвычайна дзікім размаху забубніў па мурох і агалелых скалах. А яны, урослы глыбока ў зямлю, стаялі непарушныя, як некія волаты, і толькі адзываліся глухім рэхам. А вецер увесь час дзіка выў, страшэнна сьвістаў і жаласна плакаў. Над гэтым усім на вяршынях гор, упрыгожаных вечнаю сьнежнаю бельлю, здавалася, панаваў чароўны супакой. Ноччу там месяц разьліваў сваё бледнае сьвятло і тады вяршыні прымалі формы страшных прывідаў, быццам некая замагільная мара старалася тут умацаваць сваю ўладу, наводзячы навокал страх і жудасьць. У дзень там сонца рассыпала свае праменьні, якія адбіваліся вясёлкавымі колерамі ад кожнае ільдзінкі і зіхацістага граніту, разячы да сьлёз вочы і пякучы да болю паверхню цела. Чыстае, як крыштал, паветра, цішыня і вышыня мімаволі сьведчаць аб нечым надпрыродным, наводзячы на кожнага, хто знайшоўся на гэтых вяршынях, глыбокае ўражэньне, што тое, да чаго ён так імкнуўся, тут знайшоў хоць часткава; і дадае яму сілы і энэргіі да змаганьня на ягонай жыцьцёвай дарозе.

У невялічкай даліне, паміж абрывістымі скаламі, паміж ялінамі і хвоямі вырысоўвалася высокая царква і невялікі дом, злучаныя між сабою сьвежа вытаптанай сьцежкай — гэта дача рымскіх багасловаў. У адной з келіяў гэтае дачы кленчыў малады багаслоў і горача маліўся да расьпятага на крыжы Хрыста. Перад вачыма багаслова ўстала ягоная бацькаўшчына; яе ніяк не маглі замяніць яму ані краса тырольскіх вяршынь і далін, ані шум вадападаў, ані горскія краявіды. Стаяла перад ім ціхая, упрыгожаная рознаколерным асеньнім лісьцем, апраненая ў туманы, гаротная, акрываўленая, зьняслаўленая і патаптаная. Ён адчуў яе стогны; — яны адзываліся балючым рэхам у ягоных вушох, разрывалі душу і сэрца так праймаюча, што застагнаў ад болю і сьветлыя, крыштальныя сьлёзы пакаціліся па яго шчоках. «Адарвалі мяне ад маці... ад мае найдаражэйшае бацькаўшчыны ,але ня вырвалі мне яе з душы і ня вырвуць ніколі! Не, ня вырвуць з сэрца!.. Ніколі... Хрысьце ўмацуй мае кволыя сі-

лы, каб мог змагацца за яе праз усё маё гаротнае жыцьцё і астацца яе верным сынам, як яна мне была вернай, як яна была маёй маткай.

Я Твой, о Хрысьце, навекі! Мяне нішто ад Цябе не адарве. Я прынёс Табе ў ахвяру ўсё, што мог прынясьці — самога сябе, маю маладосьць. Я Табе прыракаю, што буду служыць і славіць Цябе між маімі братамі і сёстрамі да апошняе хвіліны майго жыцьця. Але прашу Цябе, збаў маю бацькаўшчыну — мой народ. Зьнішч тую гіену, што жарэ яе жывое цела, асьвяці эвангельскім сьвятлом розум тых, якія цягнуць беларускі народ у бяздоньне недаверства і цемры. Пашлі беларускаму народу верных Табе слугаў, якія не фарысэйскім, але праведным, чэсным шляхам вялі-б народ да сьветлай будучыні.

Божа! Абудзі ў кожным беларускім сэрцы любоў да праўды і бацькаўшчыны і кожнаму пашлі дух, які-б пабуджаў іх да змаганьня за гэтыя ідэалы.

Божа! Узглянь на тыя ахвяры, якія з любові да Праўды і бацькаўшчыны прынесьлі на Твой аўтар сваё жыцьцё. Не адкінь іхняй гэнай ахвяры, але багаславі Беларусь, каб яе народ вызвалены ад усякага прыгону і гнобленьня паўстаў у сваёй прыроднай красе і багацьці, якім абдараеш кожнага і, каб пры іх помачы, з Тваёю ласкаю змог непамыльна асягнуць жыцьцё вечнае.

Я Твой, о Хрысьце, навекі. Мяне нішто ад Цябе не адарве...»

Тут замоўк багаслоў, бо сьлёзы здушылі голас.

Прыціхла нарэшце і бура ў горах; сканалі распутаныя стыхіі, а бледнае сьвятло месяца спакойна разьлівалася на вяршынях і цёмных змроках ночы, якая хавалася ад іх па ўшчэльлях.

**Т. Мазура.**

# Уражэньне з Даніі

Адзін з нашых суродзічаў выязжаючы з Даніі, хоча падзяліцца з чытачамі «Божым шляхам» сваімі ўражэньнямі з гэтага краю. З ахвотою даём яму слова.

Данія — земляробская краіна. Вялікіх фабрыкаў у ёй няма. Затое на кожным кроку сустракаюцца спажывецкія крамы, пераважна каапэратывы. Кожны з жыхароў плаціць даволі вялікія дзяржаўныя падаткі. Работнікі, у залежнасьці ад вышыні заработку, плацяць 10-15% заработку. Сямейныя работнікі плацяць меней. На выпадак хваробы яны маюць бясплатнае лячэньне і нармальную заработную плату.

Усе гаспадарскія прадукты гаспадары могуць прадаваць толькі дзяржаве і з дзяржаваю вядуць за іх разрахункі. Калі гаспадар сыстэматычна не аплочвае належнасьці дзяржаве, тады ў яго могуць гэтую гаспадарку забраць.

Заработная плата земляробскіх работнікаў летам шмат вышэйшая, чым зімою. Лепш кажучы зімою не працуючы атрымоўваюць плату затое, што працавалі летам. Фабрычныя работнікі маюць увесь час аднолькавую плату ў сярэднім па 2,31 эрэ за гадзіну.

Земляробская праца, дзе толькі магчыма, выконваецца мэханічна. Усё з'электыфікавана. У Даніі шмат садзяць цукровых буракоў. Адпадкі з буракоў і цукраварняў ідуць на корм каровам і сьвіням. Таму нічога дзіўнага, што ў Даніі ёсьць шмат малачарняў. Жывёлагадоўля стаіць вельмі высока.

Цікавыя сямейныя звычаі ў Даніі: кожны сямейнік, значыць, і жонка, і дзеці, калі яны працаздольныя, мусяць працаваць і атрымоўваюць плату нараўне з работнікамі. Калі замала працы ў сваёй гаспадарцы, ідуць да іншых.

Агулам данцы людзі добрыя і добра зарганізаваныя, але характар у іх сваеасаблівы. Па пакойніках яны ня плачуць і не азначаюцца рэлігійнасьцю. Аграмадная бальшыня з іх вызнаюць пратэстанцкую рэлігію. Палітычных партыяў маюць некалькі, маюць і камуністаў, але між сабою не задзіраюцца.

Аб Беларусі данцы малашто ведаюць. Некаторыя з суседніх народаў адносяцца да данцаў няпрыхільн, але на дзяржаўныя адносіны гэта ня мае ўплыву.

**С. Ш.**

# Над дамавінай маці

Неспадзевана падкралася сьмерць да ўдавы Ганулі і асталіся яе двое дзетак круглымі сіратамі. Дзевяцігадовая Марыська і пяцігадовы Васілёк.

Суседкі памылі і прыбралі пакойніцу, суседзі зрабілі дамавіну. Ляжыць Ганулля ў беднай дамавіне, чакае пакуль прыдзе дзед Нупрэй з псалтырам і правядзе яе на магільнік, а тымчасам су-

седкі з больш чулым сэрцам прычытваюць над ёю; іншыя гутараць паціху між сабою, паглядаючы на сіратаў і выходзяць з хаты.

Хутчэй адчула Марыська чым зразумела, што яе чакае цяпер цяжкая сірочая доля — плача яна ціха, пасінеўшымі кулачкамі вочы выцірае. Калі, гледзячы на яе, меншы брацік Васілёк пачынае плакаць, супакойвае яго і туліць да сябе.

На нейкі час перад самым пахаваньнем у хаце пасвабаднела, Марыська падыйшла да дамавіны, прыпала да халодных рук маці і змачыўшы іх гарачымі сьлязьмі, пачала галасіць:

— Мамачка, мамачка родненькая акажыся хоць славечкам, паварушы хоць пальчыкам. Ці-ж мы цябе ня слухалі, ці-мы цябе ня любілі? Што-ж мы без цябе, мамка, рабіць будзем? Куды-ж мы пойдзем, дзе падзенемся, да каго прытулімся? У хаце холадна, а на дварэ сьцюдзена... Мамачка мая родненькая, ручкі і ножкі твае цалаваць буду...

Заходзіцца малая ля дамавіны, а Васілько ў запеку.

Суседка Рыпіня штурхнула локцем куму Параску.

— Кума, пайдзі супакой яе, ты-ж умееш да дзяцей прамовіць.

Парасцы і самой жаль сэрца праймае, але падыходзіць да Марыські, абымае яе, крыху адцягае ад пакойніцы.

— Ягадка мая, сьціхні любая; наплачашся яшчэ, нябога, за сваё жыцьцё і сьлез ня хопіць на ўсё.

— Мамачка мая, даражэнькая... галасіла далей малая.

— Няма ўжо ў цябе, ягадка, мамы, няма. Была калісь, ды цяпер ужо няма.

— Аво, мая мама!

— Ці-ж гэта твая мама? — казала Параска. — Глянь, як прыбраная яна. Ці-ж так убіралася калісь у будні дзень твая мама? Ты плачаш, а яна і вокамі ня міргне; гукаеш, а яна і не аказваецца; ці ты ела што, ці піла, ня пытаецца; ты сьлёзы ліеш, а ёй і нібыташто.

— А дзе-ж мая мама? — Пытаався праз сьлёзы Марыська.

— Дзе? Вось возьмеш брацika за руку, ды пойдзеце разам у сьвет. Пойдзеце ад хаты да хаты і будзеце шукаць яе, пяючы сірочую песьню:

Прыказаў нам Гасподзь
Ні піці, ні есьці,
Матанькі шукаці...

Дык можа знойдзеце дзе. А гэта ужо не твая мама.

І сіраты праўды ў сьвет пайшлі. Сустрэлі шмат людзей у сьвеце, спаткалі шмат каменных сэрц, нямала чулых сэрц спаткалі. У горы кожны дзень брылі, ад хаты ў хату вандравалі, парогі ўсюды абівалі, чакалі заўтрашняга сонца, ды маці ў сьвеце не знайшлі.

Сваёй бядой заняты кожны, збываў іх, абы чым, каб хутчэй выправіць іх за парог і ніадзін не падумаў, што гэта вястуны ад Бога, і мала каму прышло на думку, што і яго дзеці магчыма нават заўтра могуць пабольшыць лік няшчасных сірат.

**Анатоль Жменя.**

**Уладзімер Дудзіцкі.**

### ЦЬМЯНАЯ ПЛЯМА.

Якое сьвету хараство!
На харастве — цьмяная пляма.
Чыя-ж рука цудоўну Створ
Пад сонцам мурзае вуглямі?
Якія контуры на тле
Сьвятла выростаюць і расы?
Яшчэ ня ўмёр, яшчэ ня стлеў
Зарою высыпаны прысак...
Красы ля брам ліхіх суцьмежжа.
Хто-ж гэта зноў, мой родны брат,
Сады упокат хціва рэжа?
Чые-ж віднеюцца яшчэ
Жыве ён... курчыцца апад
І гнуцца гэтак сілуэты?
Ці не касу сваю Кашчэй
Над галавой заносіць сьвету?
І краем правага пляча
Сьпірае збоі хмар гарбатых?
А мо' гатуе стравы чар
Сваіх магутная Гэката?
Ліняе сьвету хараство, —
Мяняе колеры і блескі...
Глядзіць вачыма зораў створ
На вобраз Януса двулікі...

### ДЫМЯЦЦА ХМАРЫ.

Дымяцца хмары. Неба край
У нявыразным нейкім русе.
Даўно ўжо Лысая гара
Вяшчуе глум на Беларусі.
Глыбока ў ейную душу
Упіўся чорны кіпець госьця...
Жалобу дня прыблудны шум
Кляймом азначыў на пагосьце...
Над ім — у посягу згібань, —
Накшталт мангольскага узору,
Гараць на выкутым ілбе
Крывёй палуджаныя зоры...
І стогне Лысая гара:
Як тую кроў крывёю сьцерці?
Галосіць нема родны Край
У танцы выскаленай сьмерці.

Янка Невук.

## ДА ЦЯБЕ МОЦНЫ БОЖА!

Да Цябе, Моцны Божа, зьвяртаюся я
З малітвай пакорнай і ціхай.
Тварэц усемагутны! хай просьба мая
Ня будзе адкінутай — прыкрай...

Я прасіць у Цябе, добры Ойча, хачу,
Каб сваей Усемагутнай рукою
Ты мне можнасьць паслаў, тады я палячу
У родны край няупыннай стралою.

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### ІНТРОНІЗАЦЫЯ ПАРЫСКАГА АРХІБІСКУПА.

На апарожнены пасьля сьмерці кардынала Сюара архібіскупскі пасад у Парыжу Сьвяцейшы Айцец назначыў архібіскупа Фэльтэна, які да гэтага часу быў архіб. Бордо.

Інтронізацыя новага Парыскага Архібіскупа адбылася 9-га кастрычніка ў катэдры Нотр Дам і мела нязвычайна ўрачысты характар. У перапоўненай катэдры ў прысутнасьці Апостальскага Нунцыя ў Парыжу, нью-ёрскага кардынала Спэльмана і шматлікіх францускіх ерархаў і духавенства, прадстаўніка прэзыдэнта Францыі і шматлікіх прадстаўнікоў ураду, між якімі было асабіста некалькі міністраў, шматлікіх прадстаўнікоў дыплёматычнага корпусу, а так-жа афіцыяльных прадстаўнікоў Праваслаўнае Царквы, Пратэстанцкае Канфэдэрацыі, галоўнага рабіна Парыжу, прадстаўніка магамэтанаў і нязьлічаных прадстаўнікоў ад царкоўных і дзяржаўных установаў адбывалася рэлігійная цэрэмонія перабіраньня парыскае дыяцэзыі ў рукі новага архіпастыра. Слушна заўважылі парыскія газэты, што ўрачыстасьць інтранізацыі была паважнаю рэлігійнаю маніфэстацыяю. Шматтысячная таўпа вернікаў, якая не змагла зьмясьціцца ў катэдры займала вялікую частку перадкатэдральнае плошчы, цярпліва чакаючы канца цэрэмоніі і архіпастырскага багаславенства.

Такое вялікае зацікаўленьне асобаю новага Парыскага каталіцкага архібіскупа зьяўляецца доказам узрастаючага значэньня Каталіцызму ў Францыі.

### СУПРАЦЬ ПАНЯВОЛЕНЬНЯ.

Сёлета у першых днях кастрычніка Каталіцкі Міжнародны Камітэт Супраць Палітычнага Паняволеньня першы раз арганізаваў паломніцтва ў Люрд. Выгалашаныя з гэтае нагоды прамовы Я. Эмін. кардынала Тіссэрана, Я. Эксц. архіб. Тэаса і а. Попота выклікалі жывое водгульле ў французкай і іншанацыянальнай прэсе. Асабліва востра асудзілі прамоўцы сучаснае злоснае партыйне змаганьне, якое ўсюды сее ненавісьць, хлусьню і прыгнобленьне.

### НАСТУП НА КАТАЛІЦКУЮ ЦАРКВУ Ў ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ.

Барацьба супраць Каталіцкае Царквы ў Чэхаславаччыне прымае штораз новыя формы. Арх. Бэран увесь час знаходзіцца ў архібіскупскім палацы пад дамовым арыштам. Справу кіраваньня Царквою пробавала гвалтам перабраць у свае рукі створаная камуністычным урадам «Каталіцкая Акцыя», апанаваўшы насільна біскупскія канцыляріі. Апошнім часам утварылася Міністэрства Культаў, на чале якога стаў ваюючы камуніст і бязбожнік Чэпічка, адначасна выдана закон аб арганізацыі Царквы, паводля якога ўся царкоўная маемасьць пераходзіць дзяржаве і адначасна ўсе сьвятары маюць рахавацца дзяржаўнымі ўрадаўцамі і атрымоўваць ад дзяржавы плату, як іншыя ўрадаўцы, але дзеля гэтага яны мусяць злажыць прысягу на вернасьць сучаснаму ўраду. Справу прызначаньня парахаў і настаўнікаў рэлігіі дзяржава зарэзэрвавае сабе. У аблічы гэтых камбінацыяў 11 чэхаславацкіх біскупаў (без архіб. Бэрана) у супольнай інструкцыі дазволілі сьвятаром прыняць дзяржаўную плату і злажыць прысягу, аднак вымагаюць, каб да формулы прысягі вернасьці дзяржаве было дадана: «за выняткам нясумяшчальнасьці з правам Божым і царкоўным, або з прыродным правам чалавека». Пры тым аднак біскупы зазначаюць, што гэты закон ёсьць гвалчаньнем царкоўнага права і сілаваньне над сумленьнем сьвятароў.

Відаць, што камуністычная партыя праводзіць у Чэхаславаччыне досьледы разьбіцьця і апанаваньня Каталіцкае Царквы, бо выпрабаваныя дагэтуль мэтады, на Праваслаўнай Црркве ў адносінах да Каталіцкае Царквы ня прынесьлі для камуністаў жаданых вынікаў.

### ДЗЕ ЗЬНІКАЮЦЬ САВЕЦКІЯ ПРАВАСЛАЎНЫЯ ЕРАРХІ?

Колькі месяцаў таму ў расейскай зарубежнай прэсе была зьявілася вестка, што экзарх маскоўскага патрыярха на Усх. Азію Манджурскі мітр. Нестар (Анісімаў) арыштаваны савецкімі ўладамі. З савецкага боку ані запярэчаньня, ані пацьверджаньня гэтае весткі ня было, але відаць, што весткі праўдзівыя, бо ў Журнале Маскоўскае Патрыярхі ўжо даўжэйшы час не ўспаміналася імя мітр. Нестара, а затое ў Нр 5 г.г. паведамляецца, што абавязкі экзарха Усх. Азіі выконвае яп. Нікандр (Волняніков).

### СУПРАЦЬ КАМУНІЗМУ.

Дэкрэт Сьвяцейшага Айца Пія XII, асуджаючы камуністаў і ўсіх супрацоўнікаў, выклікаў ня толькі аграмаднае ўражэньне ўва ўсім сьвеце, і падтрыманьне ўсіх устаноўваў і арганізацыяў шчыра жадаючых дабра народу, але так-жа падобныя дэкрэты іншых рэлігійных зьверхнікаў. Нядаўна асудзіў камунізм: візантыйскі патрыярх Атэнагорас і архіяп. Кіпру Макарый. Незалежна ад хрысьціянскіх зьверхнікаў адзін з найбольшых уплывовых кіраўнікоў буддызму ў цэнтральнай Азіі і адначасна валадар Тыбету — Далай Лама прагаласіў сьвятую вайну буддызму супраць камунізму.

### РЭФОРМА МАНАСТЫРОЎ.

У неафіцыяльных царкоўных каталіцкіх кругох ходзяць весткі, паводля якіх у 1950 г. маюць быць праведзены паважныя рэформы некаторых каталіцкіх манашых чынаў так мужчынскіх, як і жаночых. Рэформа мела-б на мэце прыстасаваць манашыя чыны да супрацьдзеяньня руйнацкай акцыі камунізму і матэрыялізму. Асаблівая ўвага мела-б быць зьвернута ў тэй рэформе на місыйную працу. Такая рэформа мела-б быць праведзена падчас Сьвятога Году.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### Беларускае Каталіцкае Акадэмічнае Аб'еднаньне.

Спатыкаючыся з заходня-эўрапэйскімі каталіцкімі арганізацыямі, беларусы ўжо даўно адчувалі вельмі балюча той факт, што ў нас да гэтага часу ня было ніякае каталіцкае арганізацыі, а тым самым нельга было навязаць лучнасьці з інтэрнацыянальнымі каталіцкімі арганізацыямі. Дзеля гэтага ініцыятыўная група прадстаўнікоў беларускае каталіцкае інтэлігэнцыі з Англіі, Бэльгіі, Нямеччыны і Францыі, сабраўшыся ў Лювэне дня 21-X г.г. пастанавіла зарганізаваць Беларускае Каталіцкае Акадэмічнае Аб'еднаньне на Эміграцыі «Рунь» ім. сьв. Аўгустына. Быў апрацаваны статут і выбрана галоўная ўправа з аседкам у Лёндане ў памешканьні Беларускае Каталіцкае Місіі. На просьбу ініцыятыўнае групы, патранат над гэтай маладой арганізацыяў згадзіўся прыняць Я. Э. біск. Слоскан. Зацікаўленыя гэтаю арганізацыяю хай зьвяртаюцца на адрас:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, London, N. 12. Englande.

### Паломніцтва ў Рым.

Падчас Сьвятога Году, які будзе трываць ад 24. XII. 49 да 24. XII. 50, з усяго сьвету паломніцтвы будуць напльіваць у Рым, каб там атрымаць тыя шчодрыя адпусты, якія з гэтае нагоды будуць прыслугоўваць кожнаму паломніку.

Беларуская эміграцыя, не зважаючы на вялікія матэрыяльныя цяжкасьці, якія кожны з нас цяпер перажывае, так-жа пастанавіла зарганізаваць супольнае паломніцтва ў Вечнае Места — Рым. Гэтым шляхам просіцца ўсіх зацікаўленых і жадаючых удзельнічаць у паломніцтве паведаміць аб гэтым Беларускія Місіі:

У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, London, N. 12.

У Нямеччыне: Hochw. M. Moskalik, (20 b.) Goslar, Sommerwohlen str. 1 A.

У Францыі і іншых краінах: R. P. Horosko L., 95, rue de Sèvres, Paris VI[e].

Таму, што кошты паломніцтва з кожнае краіны будуць іншыя, дык аб іх павядоміцца кожнага зацікаўленага асабіста. Час паломніцтва праектуецца на верасень 1950 г. Канчатковае усталеньне часу будзе залежаць ад Цэнтральнага Камітэту Сьвятога Году ў Рыме.

Просіцца заявы ў гэтай справе складаць магчыма якнайхутчэй.

### АНГЛІЯ.

#### Другі Агульны Зьезд БХАА «Жыцьцё».

Маладая арганізацыя Беларускае Хрысьціянскае Акадэмічнае Аб'еднаньне «Жыцьцё» у Англіі, памысна разьвіваецца і разрастаецца, увайходзіць у зьвязкі з міжнароднымі студэнцкімі арганізацыямі, як гэта выявілася падчас Другога Зьезду гэтае арганізацыі, які адбыўся сёлета 4-га верасьня ў Лёндане. Зьезд распачаўся Службаю Божаю, якую адправіў а. др. Ч. Сіповіч. Наступна пасьля дакладу на тэму: Значэньне навукі ў сучасным жыцьці», адбылася справаздача ўправы, наглядная рады БХАА і выбары дэлегатаў на трэці зьезд ЦБСА. Уканцы намечаны плян працы на наступны год.

У склад новае ўправы выбрана: старшыня — а. др. Ч. Сіповіч, сакратар — А. Надсон, скарбнік — праф. М. Нікан. У склад Наглядное Рады ўвайшлі: Ч. Кукель, Я. Мазура, Т. Цімафейчык.

#### Беларуская вечарына ў Лёндане.

Стараньнем Лёнданскага Адзьдзелу ЗБВБ дня 3-IX адбылася ў залі Майпэсбург Галь першая беларуская вечарына ў Лёндане. Акрамя беларусаў на вечарыну былі запрошаны госьці ад 15 нацыянальнасьцяў. Быў наладжаны добры буфэт. Паміж танцамі пяяліся беларускія песьні хорам і солё. На ўсіх прысутных вечарына зрабіла добрае ўражэньне.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Камітэт.

Управа Тымчасовага Беларускага Камітэту ў Аўстраліі робіць стараньні, каб Камітэт замяніць на сталую арганізацыю. Сілы да гэтага цяпер ёсьць, бо з новымі транспартамі ў Аўстралію прыехала нямала беларускае інтэлігэнцыі. Аднак на перашкодзе стаяць кантракты і вялікая расьцярушанасьць.

## БЭЛЬГІЯ.

### Трэці Агульны Зьезд ЦБСА.

Студэнцкі Дом у Лювэне ад 16-га да 22-га кастрычніка гасьціў прадстаўнікоў ад усіх беларускіх студэнцкіх згуртаваньняў Англіі, Бэльгіі, Нямеччыны і Францыі, якія прыбылі сюды на трэці Агульны Зьезд Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў.

Распачаўся З:езд Службаю Божаю, якую адправіў а. др. Ч. Сіповіч у бэнэдыктынскай капліцы і сказаў пры гэтым зьмястоўнае казаньне. Наступна дэлегаты і госьці перайшлі у Студэнцкі Дом пры Лювэнскім Унівэрсытэце і прыступілі да парадку дня. Пасьля ўступных прамоваў і прывітаньняў ад шматлікіх беларускіх установаў на эміграцыі здалі справаздачы старшыня ўправы і старшыня Рэвізыйнае Камісіі ЦБСА. Управа атрымала абсалюторыю. Наступна паасобныя дэлегаты падалі справаздачы з праробленае працы іхнымі арганізацыямі і аб сучасным стане беларускага студэнцтва на эміграцыі. Пасьля дыскусыяў над справаздачамі была прынята рэзалюцыя, якая выказвае волю беларускага студэнцтва супрацоўнічаць і падтрымоўваць кіруючыя органы БНР.

На прапанову бальшыні сяброў і пасьля зьмястоўнае ды ўсебаковае дыскусыі аднагалосна была прынята пастанова замяніць Цэнтралю Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (ЦБС.) на Цэнтралю Беларускіх Акадэмічных Арганізацыяў (ЦБАА), зьмяняючы адпаведна да гэтага і статут арганізацыі.

Згодна з папраўленым статутам адбыліся выбары кіруючых органаў ЦБАА. У тайным галасаваньні былі выбраны: старшыня — Б. Рагуля, заступнік — Э. Смаршчок, сакратар — М. Жылік, рэфэрэнты: Ул. Цьвірка, Вінніцкі, Набагез. Старшыня Стыпэндыяльнага Фонду — а. др. Ч. Сіповіч, сакратар — праф. М. Нікан, скарбнік — Ал. Надсон. У склад Рэвізыйнае Камісіі ўвайшлі: Ч. Кукель, Я. Філістовіч, Трусэвіч, Я. Жытка, Жэлезоўская.

У вольных прапановах абгаворана справу прэсы, адносін да САБЭ, дапамогу матурыстам у выбару факультэтаў і ін.

З нагоды Зьезду лювэнскія беларускія студэнты наладзілі прыняцьце, дзе за шклянкай кавы ўдзельнікі Зьезду спаткаліся з шматлікімі запрошанымі госьцямі, між якімі былі Я. Э. біск. Слюсканс, прафэсары Лювэнскага Унівэрсытэту і прадстаўнікі ад іншанацыянальных студэнцкіх арганізацыяў. Пры гэтай нагодзе прадстаўнік Студэнцкіх Арганізацыяў у Аргэнтыне меў нагоду бліжэй запазнацца з беларускім студэнцтвам і навязаць дзейную лучнасьць.

У апошніх днёх Зьезду было прачытана некалькі зьмястоўных рэфэратаў на актуальныя тэмы. У міжчасе ўдзельнікі Зьезду аглядалі Лювэнскую бібліятэку і сам Лювэн.

Незацёртае ўражэньне эрабіла на ўсіх удзельнікаў візыта ў Я. Э. Ван Вайнэбэрга рэктара Лювэнскага Унівэрсытэту. На словы прызнаньня і падзякі паасобных прадстаўнікоў рэктар выказаў усім у вельмі цёплых словах свае прыхільныя адносіны да беларусаў, гаворачы пачарзе адпаведна да прамоваў прадстаўнікоў ў чатырох мовах: францускай, лацінскай, нямецкай і ангельскай.

Ўканцы ўсе ўдзельнікі Зьезду адведалі Брусэль.

Бяз сумніву гэты Зьезд зьяўляецца паважным этапам у разьвіцьці беларускага арганізаванага жыцьця на эміграцыі.

### Бэльгійская прэса аб беларусах.

Адна з найбольшых бэльгійскіх газэтаў «Лялібр Бэльжік» двойчы падала да ведама ў нумарох 291 і 298 зацемкі аб Трэцім Агульным Зьезьдзе беларускіх студэнтаў.

Апрача гэтага тая-ж газэта ў Нр. 294 з дня 21-X-49 зьмясьціла даволі шырокае інтэрвью прэзыдэнта БНР, інж. Міколы Абрамчыка.

## ДАНІЯ.

### Прымусовая эміграцыя.

Данскія улады у паразумленьні з цэнтральнымі ўладамі ІРО дня 20-X г.г. прымусова выселілі ў Аўстралію 500 чалавек бежанцаў, між якімі ёсьць пара дзясяткаў беларусаў. Не зважаючы на стараньні і дамаганьні беларусаў і данскія ўлады ў некаторых выпадках адмовіліся запісваць у дакумантах беларускую нацыянальнасьць.

## З. Ш. А.

### На арганізацыйнай ніве.

Стараньні новае беларускае эміграцыі ў ЗША аб утварэньні свае нацыянальнае арганізацыі нарэшце ажыцьцявіліся. Сёлета дня 15-VIII паўстала «Беларускае Аб'еднаньне ў Амэрыцы» У склад Управы Аб'еднаньня ўвайшлі: старшыня — інж. М. Гарошка, заступнік — Сп. др. Я. Станкевіч, сакратар — Я. Ніхаёнак.

## ІТАЛЯ.

### Пераходны лягэр.

Усім беларусам, якія з Нямеччыны выязджаюць у Аўстралію прыходзіцца нейкі час затрымоўвацца ў італьянскім порце Баньёлі ля Нэапо-

лю. Для духовых абслугаў у лягэры ёсьць рыма-каталіцкі капэлян. Беларусам варта памятаць, што гэты капэлян лягэру мае беларускія малітаўнікі і іншую беларускую рэлігійную літаратуру.

## КАНАДА.

### «Беларускі эмігрант» друкам.

Нр. 9 (20) «Беларускага эмігранта» выйшаў друкам. Гэта можа быць добрым доказам таго, як паволі, але пасьлядоўна мацнее ў Канадзе беларускі нацыянальны рух.

## НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ.

### Першая група беларусаў.

Куды сёньня доля не закідае беларусаў?! Нядаўна невялікая група беларусаў (12 чалавек) аказалася на аўтоках Новае Зэляндыі. Сумныя весткі шле аб сабе гэтая група, аднак у гэтым суме льга знайсьці штосьці пацяшаючае. Калі да 1914 г. з нашае бацькаўшчыны выэміґравала за мора 1.380.000 беларусаў, дык яны найчасьцей ніякіх вестак аб сабе не давалі і даваць ня было куды — расьцярушыліся яны амаль бясьсьледна для нас у чужым моры. Відаць, што сучасны стан беларускае сьведамасьці выглядае зусім іначай.

## НЯММЕЧЧЫНА.

### Беларускія Скаўты на Міжнародным Зьлёце Скаўтаў.

Падчас Другога Міжнароднага Зьлёту Скаўтаў Д. П., які адбыўся ў Фішбэку ў днёх 19-28 жніўня прымала ўдзел 14 нацыянальнасьцяў, у тым ліку дзьве дружыны беларускіх скаўтаў. Перад канцом Зьлёту была наладжана выстаўка мастацкіх і нацыянальных вырабаў. Беларускі адзьдзел Выстаўкі карыстаўся вялікай папулярнасьцю.

### Паведамленьне Харытасу.

У Беларускай Харытатыўнай Службе ў Госляры можна набыць брашуру з вершамі М. Багдановіча ў нямецкім перакладзе « «**Weissruthenische Heimat-Lyrik**» » у цане па 1 н. м. Замаўляць на адрас: **Weissruthenische Charitas, (20 b) Goslar, Sommerwohlen str. 1. A.**

### Высьвячэньне Царквы.

У беларускім лягэры Розэнгайм дня 6-VIII г.г. уладыка Сяргей апякун Беларускае Аўтакефальнае Царквы ў саслужэньні а. Васілія Тамашчыка і іншых сьвятароў урачыста пасьвяцілі лягэрную праваслаўную царкву імені сьв. Мікааля. Настаяцелем царквы назначаны а. Васілій Тамашчык.

### Эмігрцыя.

Хваля выезду перамешчаных асобаў з Няммеччыны ў заакіянскія краіны цяпер абмежавалася толькі да аднае краіны — Аўстраліі. У іншыя **краіны цяпер магчыма выехаць толькі на індывідуальныя афідавіты.**

## ФРАНЦЫЯ.

### Беларускае Акадэмічнае Таварыства.

Пры «Хаўрусе» Беларусаў у Францыі дня 1-X г.г. заснавалася Беларускае Акадэмічнае Таварыства, мэтай якога ёсьць: распрацоўваць пытаньні з усіх дзялянак беларусаведы, ладзіць навуковыя адчыты, навязваць кантакты з падобнымі навуковымі ўстановамі іншых народаў, сьлядзіць за публікацыямі адносна беларусаведы і ў меру патрэбы займаць адносна іх адпаведнае становішча, садзейнічаць да ўзгадаваньня новых беларускіх навуковых кадраў, усімі магчымымі спосабамі старацца павялічваць лік студыюючае беларускае моладзі.

### Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне.

Беларускія студэнты ў Францыі сумесна з кандыдатамі на студэнтаў дня 2-X г.г. залажылі ў Парыжу Белар. Студ. Згуртаваньне ў Францыі з мэтаю актывізацыі свае навуковае і грамадзкае дзейнасьці, вышукваньню матэрыяльнае дапамогі і рэпрэзэнтацыі беларускага студэнцтва між студэнтаў іншых нацыянальнасьцяў.

### Мэмарыял паняволеных народаў.

У зьвязку з сучаснаю сэсіяю Асамблеі Арганізацыі Злучаных Нацыяў (АЗН) прадстаўнікі паняволеных народаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы: Баўгарыі, Беларусі, Латвіі, Летувы, Мадзярщчыны, Польшчы, Славакіі, Украіны, Чэхіі, Эстоніі і Югаславіі зложылі на рукі гэнэральнага сакратара АЗН Трыгвэ Ліе мэмарыял, у якім зьвяртаюць увагу Гэнэральнае Асамблеі на патаптаньне ў іхных краінах правоў чалавека абвешчаных Асамблеяю 10-XII-48 і дамагаюцца суду над акупантам. Тэкст мэмарыялу паўтарылі ў некалькіх мовах амэрыканскія і ангельскія радыёстанцыі.

### Дзейнасьць БНАМ.

Апошнім часам парыскі адзьдзел Беларускае Незалежніцкае Арганізацыі Моладзі значна ажывіў сваю дзейнасьць. Штонядзелі адбываюцца зборкі, на якіх вывучаюцца беларускія народныя песьні і танцы, каб магчы выступіць з імі на сцэне.

## ЗЬМЕСТ.




**Gérant : D. Kucopej.** **Directeur : Abbé L. Horosco.**

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.